| | | |
|---|---|---|
| ці | це | ця |
| дзі | дзе | дзя |
| зі | зе | зя |

# Дз дз

*Дз дз*





| | |
|---|---|
| цень | вер |
| дзень | звер |
| тыдзень | дзверы |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Іна | мець | дзед | дзевяць |
| Дзіна | медзь | дзядзя | дзесяць |
| Зіна | мядзведзь | дзядзька | дзякуй |

**Імянінніки гука «дз»**

Надзя

Дзіма

Федзя

Дзяніс




Вадзім

Уладзя

Валодзя

**Прыказка**

Няма смачнейшай вадзіцы,
як з роднай крыніцы.

## Дзе яны выраслі?

У агародзе? У садзе?
У вадзе? На полі?

**Прыказка.** Хто не сее, у таго не расце.

### Успомні казку



Дзе посуд жорава,
а дзе — лісічкі?



| | | | |
|---|---|---|---|
| дзік | ход | раз | змена |
| маладзік | сход | штораз | зменлівы |

## Зменлівы месяц

Надзя стаіць пры акне. Глядзіць на месяц.

Дзіва дый го́дзе. Нядаўна месяц быў як ражок. «Маладзік», — казала тады мама.

Рос, рос, і цяпер як залаты шар. Гэта поўнік, або поўня.

Што з гэтым месяцам? Адзін і той жа, а штора́з іншы.

## Розны месяц



маладзік падпоўнік поўнік сход, або ве́тах

| | | | |
|---|---|---|---|
| дзень<br>адзенне | мерка<br>прымерка | раве<br>кравец | стаў<br>астаўся |

| | | |
|---|---|---|
| раз<br>праз<br>якраз | біў<br>згубіў<br>разгубіўся | рана<br>ранне<br>убранне |

## Чаму месяц без вопраткі ходзіць?

(Казка)

Захацеў неяк месяц пашыць сабе ўбранне. Пайшоў да краўца. Зняў кравец з яго мерку.

— Прыходзь, — кажа, — праз тыдзень.

Мінуў тыдзень. Прымярае месяц адзенне. Ды дзе там яно яму! Вузкае,



цеснае. «Відаць, памыліўся», — падумаў кравец. І зноў кажа месяцу:

— Прыходзь праз тыдзень.

Пашыў кравец. Сядзіць, чакае. Аж тут коціцца па небе месяц. Круглы, вялікі. Тут і без прымеркі відаць: вопратка будзе малая.

Разгубіўся кравец і кажа:

— Не магу табе, месяц, убранне пашыць. То ты як сярпок. То ў палавіне. А цяпер у поўні. Ніколі не будзе табе ўбранне якраз.

Так і астаўся месяц без вопраткі.



**Словы-браты:**

адзенне, вопратка, убранне.

## Кватэры — сябрам

Стук-стук — чуецца ў лесе. Гэта дзяцел. Пастукаў раз-другі. І хутка перабег на другі бок ствала. Быццам хоча ўбачыць: прабіў ці не прабіў дрэва наскрозь?

Дзяцел ведае: ад моцнага стуку з-пад кары выпаўзуць розныя жучкі, чарвячкі, караеды.



Вось яму і ласунак.

Дзяцел — карысная птушка. І не толькі таму, што есць шкоднікаў дрэў.

За свае гады ён пабудаваў шмат дамоў розным птушкам. Сінічкі, шпакі, сычы, мухалоўкі жывуць у яго дуплах.

Штогод дзяцел дзяўбе сабе новае дупло.

А старое пакідае іншым.

## Заяц і капусны лісток

Бяжыць з агарода заяц. Бяжыць, уцякае ў поле, у лес. За ім Лыска. Вось-вось нагоніць, разарве.

За што так гоніць Лыска зайца?
За такі маленькі ліст капусты?
Бедная зайцава доля.

М. Фальскі.



## Языкаломка

Зайцава луста — кара ды капуста.

* * *

Стаялі словы з апошнім складам **-ка**. Прыйшлі да іх кароткія словы **на, у, аб**. І перарабілі **-ка** ў **-цы**.

| | | |
|---|---|---|
| шап**ка** | на | шап**цы** |
| галоў**ка** | | галоў**цы** |
| фуфай**ка** | у | фуфай**цы** |
| бул**ка** | | бул**цы** |
| талер**ка** | аб | талер**цы** |
| міс**ка** | | міс**цы** |

# Ёё

Ёё

## Загадка

Рыба і шчотка —
дзіўная радня:
розныя іголкі —
адно імя́.



Гэта ёрш.



І гэта ёрш.







## Нашы птушкі

У нашым кра́і — Беларусі —
ёсць буслы, сарокі, гусі.
І вядуцца на балотах
жураўлі ў густых чаротах.

Пачнуць хорам —
не здзівіцца!
Ёсць дзе пець і весяліцца!

Алесь Гурло.

## Языкаломка

Чыё-чыё? Ні маё, ні тваё — нічыё.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| воз | нос | пілот | лён | Сеня | салёны |
| вёз | нёс | палёт | клён | Соня | зялёны |
| лог | цок | восы | лозы | сёння | вясёлы |
| лёг | цёк | вёслы | слёзы | | |

| е | ё |
|---|---|
| ле | лё |
| не | нё |
| се | сё |
| зе | зё |
| це | цё |
| ве | вё |
| ме | мё |
| пе | пё |

## Чмелікі

Ішоў Лёня ўлетку полем. Быў цёплы дзень. Мінуў лён, жыта.

Раптам чуе звон. Чмелік! Хутчэй за ім. А чмелік шусь у мох — і знік. Уцёк.

Разгарнуў Лёня мох. Так і ёсць. Чмелікі. Тут іх соты. Тут мёд.

Знайшоў Лёня саломку. Пасмактаў трошкі, а больш не чапаў. Рэ́шта няхай чмелікам.



| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| о | но | ло | во | бо | по | со | зо | цо | фо |
| ё | нё | лё | вё | бё | пё | сё | зё | цё | фё |

## Сцяжынка



Штодзе́нь уранку летам,
ледзь-ледзь пачне світаць,
бяжыць сцяжынка з дому
па лесе пагуляць.

Яна заўсёды знае,
дзе ягады растуць,
дзе перайсці канаву,
балотца абагнуць.

А толькі звечарэе
і стане цёмна зноў,
у лесе не заблудзіць
і прыбяжыць дамоў.

Г. Кляўко.

цёплы — халодны
лёгкі — …
далёкі — …
вясёлы — …

## Восы і слёзы

Што бывае пасля вос?..
Толькі шчылінкі для слёз.

П. Сіняўскі.





# Юю

*Юю*



Кожным ранкам
чыста мыю
рукі, вушы,
твар і шыю.

Пасля заняткаў дома я чытаю, рашаю, рысую.

## Крыўда алоўка

Я заўсёды вам служу:
і рашаю, і пішу,
усё, што хочаш,
я змайструю,
на паперы нарысую.

Дык чаму, скажыце мне,
хваляць вас, а не мяне?

## Што ўмее аловак



| | | | |
|---|---|---|---|
| лук | Люда | цюбік | цюль |
| люк | Люба | дзюба | цюльпан |

## Пяро і аловак

Нюра ўбачыла ручку. Старую, з пяром. І просіць дзядулю:

— Скажыце, дзедку, чаму гэта пяро завуць пяром? Яно ж сталёвае.

— А таму, што даўней людзі пісалі гусіным пяром. Адсюль і яго назва.

Нашы продкі пісалі яшчэ і алавяннаю палачкаю.

Здагадайся, адкуль пайшла назва «аловак».

| ◠ё | ◠ю |
|---|---|
| лё | лю |
| нё | ню |
| цё | цю |
| зё | зю |
| мё | мю |
| вё | вю |
| пё | пю |
| бё | бю |





| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| е | ле | не | це | зе | се | пе | бе |
| ё | лё | нё | цё | зё | сё | пё | бё |
| ю | лю | ню | цю | зю | сю | пю | бю |

## На рэчцы зімою

Не сядзіцца ў хаце
хлопчыку малому,
кліча яго рэчка,
цягнуць санкі з дому…

— Мамачка-галубка! —
просіць ён так міла. —
Можа б, ты на рэчку
пагуляць пусціла?

Я не буду доўга,
зараз жа вярнуся,
трошачкі на рэчцы
ў санках паважуся.

Якуб Колас.



## Ветлівасць



Калі я знаёмых
ці родных
спаткаю,
вітаюся,
зняўшы ўбор
з галавы,
і ветла кажу,
калі што ў іх
спытаю:
— Вялікі вам дзякуй!
Прабачце.
А вы?

## Ласкавыя словы

Мама, мамка, мамачка, матулечка, матуля, матулька, матухна.

Тата, татка, татачка, татуля, татулька, татулечка, татухна.

Баба, бабуля, бабулька, бабулечка, бабка.

Дзед, дзядуля, дзядулька, дзядок, дзядулечка, дзедка.

| | | |
|---|---|---|
| страх | спаць | гумно |
| страшны | паспаткі | прыгуменне |





## Курапатка

Снег вакол. А ў курапаткі —
ані норкі, ані хаткі.
— Што ж паесці? Дзе паспаткі?
Мерзнуць лапкі ў курапаткі.

За кустамі вельмі блізка
ходзяць страшны воўк і ліска.
Зерне б выдзеўбла з былінкі,
ды каршун глядзіць з асінкі.

З клёну вырвала б пупышку —
совы тояцца ў зацішку.
Шусь пад снег яна крадком —
спіць з галодным жыватком.

Раніцóй на прыгуменні
ты сыпні ёй крошак жменю.

Д. Бічэль.

## Паўлюк і Цюлік

Даў дзед Даніла Паўлюку шчаня́.

Цяпер Паўлюк і Цюлік — неразлучныя сябры. Куды Паўлюк, туды і Цюлік. Ад Паўлюка ні на крок.

Ідзе Паўлюк у школу, і Цюлік бяжыць за ім. Ці вецер дзьме, ці мяце завея.

Паўлюк сядзіць у класе на ўроку. А Цюлік чакае яго на двары.

Чаму ж сёння Цюліка няма каля школы?

А сёння ж нядзеля.



**Словы-браты:**

бяжыць, імчыцца, нясецца;
сябар, дружбак, таварыш.



* * *

Ладу-ладу-ладкі.
— Дзе былі?
— У бабкі.
— Што пілі вы?
— Ма-ла-ко.
— А што елі?
— Ко-ко-ко!

Мы і заўтра пойдзем
да бабулі нашай.
Абяцала бабка
бярозавай кашы.

Васіль Вітка.

## Коцік-варкоцік

Коцік-варкоцік
лёг на жывоцік.
Лапкі пад вушка —
не трэба падушка.

Н. Галіноўская.



У кошкі кіпці ў аксаміце. Сцеражыся, мышка!

## Языкаломкі

Далі Даню дома дыню.

Пытаецца ў зязюлі лісяня:
— Дзе тваё, зязюля, зязюляня́?

# Дж дж



*Дж* *дж*

| | | | |
|---|---|---|---|
| хачу | саджай | вадзі | джала |
| хаджу | ураджай | ваджу | дождж |
| сачу | джэм | глядзі | дожджык |
| саджу | джэмпер | гляджу | |

**Дожджык**

Лі́ся, дожджык,
градкі мый!
Ну яшчэ хоць трошкі!
Дожджык, дожджык
залаты,
вадзяныя ножкі!

**Народныя прыкметы**

Кветкі моцна пахнуць перад дажджом.
Ластаўка лятае нізка — на дождж.

## Коцікі

Села кошка на парожку,
вяжа коціку панчошку.
А пасля пашые тапкі,
каб кату не мерзлі лапкі.

Д. Бічэль.





## Галубы

Елі дружна хлеба крошкі,
крыллем лопалі, гулі
і дажджу буйныя кроплі,
быццам зернеты, дзяўблі.

Максім Лужанін.



## Вожык

— Вожык, ты чаму калючы?
Гэтак колешся балюча?
— Бо ваўкі, лісы́, мядзведзі —
не найлепшыя суседзі!

Б. Захадэр (пераклад А. Клышкі).

## Поні

Хто, сябры, не бачыў поні?
Поні —
гэта тыя ж коні!



Тая ж грыва,
той жа хвост,
толькі вось маленькі рост...

## Зебра



Вось дык конік —
дзіўны нейкі,
быццам сшытак
у лінейку!

Для чаго ты —
для чытання
ці для чыстага пісання?

Л. Рашкоўскі
(пераклад А. Клышкі).

## Жарт



А лісіца задаецца:
яе імем грыб завецца!

А. Каско.

| | | | |
|---|---|---|---|
| п’ю | еў | ехаў | двор |
| б’ю | з’еў | пад’ехаў | надвор’е |



## Як хто спіць



Кот-варкот пад’есць, пап’е малака. Падбярэ пад сябе лапкі. Заплюшчыць вочы — і мур-мур.

Сабака скруціцца ў клубочак і засне. Здаецца, моцна спіць, а чуе, калі хто чужы ў двор ступіць.





Многія птушкі спяць на дрэвах. І ніякае надвор’е ім не страшна. У іх цёплае пер’е.

Качкі, гусі могуць спаць на вадзе. А чайкі, калі спяшаюцца ў вырай, спяць нават у палёце.



## Сом



Спіць спакойна сыты сом.
Спіць і сніць салодкі сон.

| | | |
|---|---|---|
| ключ | едзь | пісала |
| уключыла | прыедзь | дапісала |
| | прыедзьце | падпісала |

## Любіна пісьмо

Люба ўключыла камп'ютар.

Яна друкуе пісьмо бабулі.

«Любая бабка! Мы ўсе вельмі любім Вас. Калі ласка, прыедзьце на мой дзень нараджэння. І вазьміце з сабою Віцю і Васю. У мяне ёсць новы дыск пра Кузю».

І падпісала: «Ваша ўнучка Люба».

А пасля дапісала: «А цукерак не трэба».

А сама думае: «Прывязе, прывязе бабка цукерак».



Гэта ліст.



І гэта ліст.

Прынясіце ліст паперы,
што шырэй за нашы дзверы,
што вышэй за нашу шафу,
нарысую вам жырафу.

Васіль Вітка.

**Словы-браты:** пісьмо, ліст.

# Алфавіт

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Аа | Бб | Вв | Гг | Дд |
| а | бэ | вэ | гэ | дэ |
| *Аа* | *Бб* | *Вв* | *Гг* | *Дд* |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Ее | Ёё | Жж | Зз | Іі |
| е | ё | жэ | зэ | і |
| *Ее* | *Ёё* | *Жж* | *Зз* | *Іі* |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| й | Кк | Лл | Мм | Нн |
| і нескла-довае | ка | эл | эм | эн |
| *й* | *Кк* | *Лл* | *Мм* | *Нн* |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Оо | Пп | Рр | Сс | Тт |
| о | пэ | эр | эс | тэ |
| *Оо* | *Пп* | *Рр* | *Сс* | *Тт* |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Уу | ў | Фф | Хх | Цц | Чч |
| у | у нескла-довае | эф | ха | цэ | чэ |
| *Уу* | *ў* | *Фф* | *Хх* | *Цц* | *Чч* |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Шш | ы | ь | Ээ | Юю | Яя |
| ша | ы | мяккі знак | э | ю | я |
| *Шш* | *ы* | *ь* | *Ээ* | *Юю* | *Яя* |

## Беларусь — твая Радзіма

Ты тут нарадзіўся. Тут нарадзіліся твае бацькі — тата і мама. І бацькі тваіх бацькоў. Таму і называем мы Беларусь сваёю Бацькаўшчынаю.

Ёсць на свеце краіны меншыя за Беларусь. Ёсць большыя. Але Радзіму любім мы не за тое, што яна вялікая ці багатая. А за тое, што яна наша.



# Так нараджалася Беларусь



Полацк — самы стары і славуты горад на Беларусі. Яму больш за тысячу гадоў.





Нава́градак — першая сталіца магутнай старажытнай дзяржавы.

А якія за́мкі будавалі нашы пра́дзеды! Вось замак у Міры.

# Нашы асветнікі



ЕЎФРАСІННЯ ПОЛАЦКАЯ
перапісвала кнігі.
Яна вучыла
грамаце.



КІРЫЛА ТУРАЎСКІ
напісаў шмат кніг.
Ён вучыў нас быць
добрымі.



Князь
УСЯСЛАЎ
ЧАРАДЗЕЙ

Разумны і адважны воін.
Пры ім на рэках
Нямізе і Свіслачы
быў закладзены
горад Мінск.

## А вось што мы ўбачылі ў музеі



Гэта гаршкі-спарышы́. У час касьбы і жніва ў іх насілі на поле абед. Адразу тры стравы. Нават сальніца ёсць.

Хлеб ды соль! Смачна есці!

Шырокія і доўгія слуцкія паясы. Іх ткалі з шаўковых, залатых і сярэбраных нітак. У дні радасці насілі іх светлым бокам. А ў дні смутку — цёмным.



# Мінск

Мінск — самы вялікі горад Беларусі. Гэта наша сталіца.

Тут шмат заводаў і фабрык.

У Мінску многа школ.

У горадзе выдаецца шмат газет і часопісаў. Тут надрукаваны ваш «Буквар».

Вуліцы Мінска шырокія. На іх шмат машын.

А пад зямлёй працуе хуткая чыгунка — метро. Прыгожае і зручнае.



Нацыянальная бібліятэка Беларусі

## Твая мова

Кожны народ любіць сваю мову.

Кожны немец умее гаварыць па-нямецку, француз — па-французску, рускі — па-руску, паляк — па-польску.




Дык давай гаварыць па-беларуску! Дзе б ты ні быў: дома ці ў школе, у вёсцы ці ў горадзе. Вучы гаварыць свайго брацiка і сястрычку на роднай мове.

Гавары па-беларуску ветліва. Каб і іншым, хто цябе пачуе, хацелася гаварыць па-беларуску.

# Хлопчык і лётчык



— Мой мілы таварыш, мой лётчык,
вазьмі ты з сабою мяне!
Я — ведай — вялікі ўжо хлопчык
і ўмею ўжо лётаць у сне.

Мне ўжо надакучыла дома —
у дзіцячы хадзі адно сад,
а так паглядзеў бы, вядома,
на іншы парадак і лад.

Вазьмі ж мяне, лётчык, хачу я
пабыць у людзях, паглядзець,
як месяц на небе начуе,
як блукае ў лесе мядзведзь,

як свецяцца ночкаю зоры,
а днём не відаць іх чаму,
як рэчкі ў далёкія моры
ўлетку плывуць і ўзіму.

Янка Купала.



## Янка Купала

Вы ўжо чыталі верш «Хлопчык і лётчык». Яго вельмі любіў першы ў свеце касманаўт Юрый Гагарын. Гэты верш напісаў Янка Купала. У яго ёсць шмат іншых цудоўных твораў.

Паэт нарадзіўся якраз на Купалле. Даўней лічылі, што на гэта свята расцвітае папараць. Хто знойдзе яе кветку — знойдзе шчасце.

А шчасце для Янкі Купалы — свабодная Беларусь.





## Якуб Колас

Якуб Колас, як і Янка Купала, — вялікі беларускі паэт.

Ён напісаў шмат кніг для дарослых і дзяцей.

Ён вучыў любіць родную зямлю, народ, беларускую мову.

У Мінску ёсць цудоўныя помнікі Янку Купалу і Якубу Коласу.



## Каток

У Савосева суседа
быў пярэсценькі каток,
выхаванец Паўла-дзеда,
такі слаўны пестунок!

Нос чарнявы,
хвост бялявы,
задзірасценькі;
кіпцік-шчыпчык
заграбасценькі;

вусы русы
патырчастыя;
тая спінка,
як націнка,
выгінастая.

Вушкі-слушкі
не мыляюцца,
вочкі ўночку
запаляюцца.

Хадзіў коцік пад масток,
лавіў рыбку за хвасток,
потым дзеду ён на печы
казкі-байкі варкаваў,
белым хвосцікам дарэчы
такты спевам адбіваў.

Якуб Колас.



# Калі мы так гаворым?



Просім! Дзякуй!
Хлеб-соль!
Смачна есці!
Смачна снедаць!

Смачна абедаць!
Смачна вячэраць!
Бывайце здаровы!





Добры дзень!
Добры вечар!
«Дабранач!» — кажу ўсім нанач.

## Прыказка

Любіць увесь свет лагодны прывет.

# Кран

Малы Віця з мамаю ідуць каля будоўлі.

— О, вежа едзе, — паказаў Віця.

— Гэта не вежа, — кажа мама, — а кран. Глядзі, як ён падымае цэлы пакой. Аж на пяты паверх! Вось як будуюць!

— Не будуюць, а складаюць. Як я са сваіх кубікаў! Хадзе́м туды!

— Туды нельга, — кажа мама. — Там рух, там машыны.

— Мама, глянь! А на кране ў кабіне нехта сядзіць.

— Ды гэта твой тата.

— О, буду і я як наш тата!



## Матуліны рукі



Матуліны рукі
нас песцяць, галубяць.
Так шчыра, як маці,
ніхто нас не любіць.

Матуліны рукі —
адзіныя ў свеце.
Шануйце, любіце
заўсёды іх, дзеці.

Вера Вярба.

## Дзесяць памагатых

У Ніны ў хаце заўсёды чыста. Яна і ўрокі зробіць, і малога брацiка пазабаўляе. І маме на кухні дапаможа.

На ўсё ў яе часу стае́.

— Як ты паспяваеш усё рабіць? — пытаецца ў яе сяброўка Воля.

— А ў мяне дзесяць памагатых.

— Дзе ж гэтыя твае памагатыя?

— Ды вось яны, — усміхнулася Ніна. І паказала на свае дзесяць пальцаў.

Паводле В. Кірыленкі
(пераклад А. Клышкі).

## Спрэчка

Жылі ў двары кот, певень і сабака.

— Няма нічога лепшага за малачко, — кажа кот Максім. — Хоць добра і мышкаю паласавацца.

— Што малачко! Вось каб авёс і крупы, — кажа певень.

— Ды што вы, браткі, кажаце, — перапыніў іх Лыска. — Няма нічога лепшага за костачку. Я дык разбіраюся ў ядзе!..

Спрачаліся яны, спрачаліся, а да згоды так і не прыйшлі.

## Добры зайцаў звычай

Увесну ў зайчыхі вывеліся першыя зайчаняты. Вунь яны — белыя клубочкі — нібы гурбачкі снегу затаіліся пад кустом. І дрыжаць — ад холаду і голаду. Хіба мала ворагаў у зайцоў. Дзе цяпер іх мама?



Адзін паратунак малых — добры зайцаў звычай. Якая зайчыха б ні бегла тут, спыніцца. І напоіць іх цёплым тлустым малачком.

Бо, можа, і яе дзетак цяпер корміць іншая зайчыха-маці.

## Воўк



Хвошча, хвошча дождж.
Воўк схаваўся ў хвошч.
Хвост пад хвашчом,
а воўк пад дажджом

Васіль Вітка.

## Вуж



Вуж
паўзе
сабе
дарожкай,
не кране
ніводнай
ножкай.
Ён
пакратаў бы,
каб мог,
але
вуж
не мае
ног.

Максім Лужанін.

## Языкаломка

У бары грыбы бяры.

* * *

Па-над белым пухам вішняў,
быццам сіні аганёк,
б’ецца, уецца шпаркі, лёгкі
сінякрылы матылёк.

М. Багдановіч.



## Ягадны каляндар

Хутка лета. Пра лета раскажуць ягады ў лесе. Па ягадах можна даведацца, які цяпер летні месяц. Першыя суніцы з’яўляюцца ў чэрвені. Першыя чарніцы — у ліпені. Першыя брусніцы — у жніўні...

У ліпені паспяваюць маліны, буякі́, касцяні́цы, ажы́ны, чырвоныя і чорныя парэчкі.





## Жук і слімак

Пагожым летнім ранкам
на лузе за сялом
сустрэўся жук аднойчы
з рагатым слімаком.

— Здарова! — жук вітае. —
Куды, браток, ідзеш
і з ракавіны хатку
нашто з сабой нясеш?

Абцёр слімак пот з твару,
гаворыць так жуку:
— Нямала пераажыць мне
прыйшлося на вяку.

То сцюжа, то марозы,
то навальніца, дождж.
То часам у дарозе
захопіць змрок і ноч, —

шукай тады начлегу
пад нейкім там кустом…
Гавораць яны гэтак
і раптам чуюць — гром.

Ударыў дождж краплі́сты.
І жук пабег шукаць
дзе ў за́сені цяністай
шырокага лістка.





Але на цэлым лузе
няма страхі нідзе,
і мокры, ледзь жывы ён
да слімака ідзе.

— Пусці, браток, пагрэцца,
змок дужа на лугу,
насіць за гэта хатку
табе дапамагу.

У ра́кавіне шчыльнай
вандроўнікі сядзяць.
І нават дождж краплісты
не зможа іх дастаць.

Але мінулі хмары,
і сонца ўстала зноў,
жук хатку слімакову
пакінуў і пайшоў.

Забыўся пра нягоды,
і не наўме жуку,
што абяцаў паднесці
ён хату слімаку.

Максім Танк.

## Загадкі

Хто паўзе вось тут у парку,
а свой дом нясе на карку?

Хто ў чырвоных ботах ходзіць па балотах?

## Нашы святы



Аднаго разу разгаварыліся дзеці пра святы.

— Я люблю **Дзяды**, — кажа Соня. — Гэта свята ў памяць нашых дзядоў-прадзедаў. Іх даўно ўжо няма. А ўсё, што вакол, зроблена іх рукамі. На Дзяды ў кожным доме вараць розныя стравы. Не меней як дванаццаць. І абавязкова я́чную кашу. Гэта наш самы даўні хлеб.

Наша Ніна паціху сказала мне:

— Ты адразу не наядайся. Бо чым далей, тым смачнейшыя стравы будуць.

І праўда. Апошнімі былі разы́нкі і мёд.

— А я люблю, — кажа Сцёпа, — **Калядкі** — вясёлыя святкі. Зіма. Вечар. Мама раскладае духмянае сена на стале. Засцілае яго белым абрусам. Ставіць на стол розныя прысмакі.

А як цікава гуляць на арэхі ў цот ці лішку!

Па вёсцы ад хаты да хаты ходзяць з казою калядоўшчыкі.

І наша Віка вывернула кажух, зрабіла з саломы рогі, скакала і спявала:

— Го-го-го, каза! Го-го-го, шэрая!



— А мне лю́бы **Вялі́кдзень**, — кажа Сяргей. — Мама пячэ смачныя пірагі. Мы фарбуем яйкі. Мой брат Янка добра ўмее на зуб выбіраць мацакі́. І гуляе ў бі́ткі. Аднаго разу выбіў аж сем яек. А Яна ўмее прыгожа маляваць. Вось яе пі́санкі.

— А я з усіх свят больш за ўсё люблю **Дзень Незалежнасці**, — сказаў Паўлюк. — У гэты дзень мы расказвалі вершы пра Беларусь, спявалі песні, танцавалі, а таксама правялі конкурс малюнкаў. Я атрымаў першую прэмію.





— Мне вельмі падабаецца, — кажа Міхась, — **Купалле**. Хлопцы і дзяўчаты паляць агонь, спяваюць песні, водзяць карагод. Дзяўчаты пускаюць вянкі па рацэ. Я бачыў, як з вады выскачыў вадзянік. Якраз як Ваня Куліцкі…

# Як прыйшла да нас кніга

## «Буквар» на гліняных таблічках

Ты, мажа, думаеш, што кнігі былі заўсёды? А між тым быў час, калі ні кніг, ні паперы не было.

На чым толькі не пісалі тады людзі! На лістах дрэў, на бярозавай кары, на гліняных таблічках.

Але ўяві свой «Буквар» з такіх гліняных таблічак. Які цяжкі ён быў бы! Ты б яго не падняў. Ды і конь не пацягнуў бы воз з такім «Букваром».

Толькі дзесяць легкавых машын змаглі б павезці тваю кнігу. Вось і ўяві: ідзеш ты ў школу, а дзесяць машын вязуць за табою твой «Буквар».

Смешна! Нязручная такая кніга.



## Кнігі на ланцугу

Пазней пачалі пісаць на скурах цялят, ягнят, казлянят. Ачышчалі скуры ад поўсці і пісалі.

На тоўстую кнігу ішло шмат скурак. Падумаць толькі — цэлы статак на адну кнігу! Таму даўней кніга была вельмі дарагая. Нават не ўсякі багаты чалавек мог купіць яе.

Ды і перапісвалі кнігі ад рукі. Не кожную і за год перапішаш.

Не дзіва, што тады кнігі ў бібліятэках былі акава́ныя. І нават навязаныя на ланцугу́.

Іх можна было там пачытаць на стале. Але няможна было ўзяць дадому.

## Наш першадрукар



Першым чалавекам, які пачаў друкаваць кнігі на нашых землях, быў беларус Францішак Скарына.

Ён нарадзіўся ў горадзе Полацку. Гэта было даўно — больш за пяцьсот гадоў таму. Але і цяпер памятаюць пра яго. Яго імем названы вуліцы, плошчы.

А вось які цудоўны помнік паставілі яму ў яго родным Полацку.

## Свята

— Сёння ў нас свята, — сказала настаўніца.

«Якое ж свята? — падумала Вераніка. — Сёння будны дзень».

— Калі свята, дык чаму ж мы вучымся? — спытала Алеся.

— Дзеці, вось мы і прачыталі «Буквар». Ён навучыў вас чытаць і пісаць. Вы ўжо можаце самі пісаць пісьмы, чытаць часопіс «Вясёлка», газету «Раніца». У вас цяпер стане шмат-шмат сяброў. Бо кнігі — самыя лепшыя сябры. Усе кнігі вы ўжо можаце прачытаць. Яны раскажуць вам шмат цікавых казак, вершаў.

Дык хіба гэта не свята?!




## Прыказка

Кніга — маленькае акéнца, ды праз яго ўвесь свет відаць.







## Чыталачка

Як радасна ўмець чытаць!
Не трэба маму турбаваць,
не трэба ўпрошваць і сястрычку:

«Ну, прачытай яшчэ хоць крышку!»
Не трэба клікаць і чакаць,
а можна ўзяць і пачытаць.

В. Берастаў
(пераклад А. Клышкі).




## Загадкі



З вострым носам
чорны Міша.
Сам непісьменны,
а ўсё жыццё піша.

* * *



На ўсіх мовах
пісаць можа.
Ад цябе залежыць,
ці досыць прыгожа.

## Спіс выкарыстанай літаратуры

*Багдановіч, М.* Зорка Венера : творы / уклад. і прадм. А. Клышкі. — Мінск : Мастацкая літаратура, 1991.

*Вітка, В.* Урокі роднага слова : вершы, казкі апавяданні / В. Вітка ; уклад. Т. С. Тарасава. — Мінск : Мастацкая літаратура, 2008.

*Вялюгін, А.* З белага камення — сіняе пламенне : кніга паэзіі / А. Вялюгін. — Мінск : Мастацкая літаратура, 1993.

Вясёлка : апявяданні, казкі, вершы / уклад. Т. С. Тарасава, М. А. Маляўка. — Мінск : Юнацтва, 1997.

*Гурло, А.* Нашы птушкі : вершы : для дашк. узросту / А. Гурло. — Мінск : Мастацкая літаратура, 1974.

Чытанка для дзіцячага садка / уклад. В. Вячорка, П. Садаўскі. — Мінск : Медисонт, 2008.

*Колас, Я.* Збор твораў : у 20 т. Т. 2. Вершы (1911—1938) / Якуб Колас ; рэд. тома М. А. Тычына ; падрыхт. тэкстаў і камент. Т. С. Голуб, А. І. Шамякінай ; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т мовы і літ. імя Я. Коласа і Я. Купалы. — Мінск : Беларус. навука, 2007; Т. 4. Вершы (1946—1956), Апавяданні вершам (1907—1929, 1938), Вершаваныя казкі (1917, 1926, 1929, 1956), Паэма «Міхасёвы прыгоды» (1933, 1935), У сааўтарстве (1936—1949) / Якуб Колас ; рэд. тома У. В. Гніламёдаў ; падрыхт. тэкстаў і камент. С. В. Забродскай, К. А. Казыры ; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т мовы і літ. імя Я. Коласа і Я. Купалы. — Мінск : Беларуская навука, 2008.

Крынічка / уклад. К. А. Кобызева, М. Я. Шчарбун. — Мінск : Народная асвета, 1970.

*Купала, Я.* Вершы / уклад. А. А. Сляпцова. — Мінск : Мастацкая літаратура, 1988.

*Лужанін, М.* Збор твораў : у 4 т. — Мінск : Мастацкая літаратура, 1980. — Т. 2. Паэмы ; Вершы 1955—1965 ; Проза.

*Бичель-Загнетова, Д. И.* Перепёлка : для дошк. возраста. На белорус. языке. — Минск : Беларусь,1968.

*Берестов, В.* Приятная весть : для дошк. и мл. шк. возраста / В. Берестов. — Петрозаводск : Карелия, 1989.

*Заходер, Б. В.* Стихи и сказки. — М. : Детская литература, 1973.

*Рашковский, Л.* Почемучка. — Минск : Мастацкая літаратура, 1973.

______________________________________________

(Назва і нумар установы адукацыі)

| Навучальны год | Імя і прозвішча вучня | Стан падручніка пры атрыманні | Адзнака вучню за карыстанне падручнікам |
|---|---|---|---|
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |


Вучэбнае выданне

**Клышка** Анатоль Канстанцінавіч

**БУКВАР**

Падручнік для 1 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

Для работы ў класе

2-е выданне, выпраўленае і дапоўненае

Нач. рэдакцыйна-выдавецкага аддзела *Г. І. Бандарэнка*
Рэдактар *А. М. Краўчанка*
Мастацкі рэдактар *Л. М. Рудакоўская*
Камп'ютарная вёрстка *А. М. Брыкет*
Карэктары *К. В. Шобік, Д. Р. Лосік, Л. Г. Ганчарэнка*

Падпісана ў друк 14.03.2017. Фармат 70×100/16. Папера афсетная.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 12,35. Ул.-выд. арк. 13,64. Тыраж 17 100 экз. Заказ

Навукова-метадычная ўстанова «Нацыянальны інстытут адукацыі»
Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай
рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 1/263 ад 02.04.2014. Вул. Караля, 16, 220004, г. Мінск

ААТ «Паліграфкамбінат імя Я. Коласа». Пасведчанне аб дзяржаўнай
рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 2/3 ад 04.10.2013. Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, г. Мінск